**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

**№50(662)**
**13 снежня 2012 года.**
**Кошт свабодны.**



**Сініцы любяць сала.**
*Фота Ул. Скрабатуна.*

Зімовае падкормліванне пшутак праводзіцца з позняй восені да сакавіка. Аднак яно мэтазгоднае толькі для пеўчых птушак, вадаплаўных карміць не рэкамендуецца.

У склад кармавой сумесі павінны ўваходзіць семечкі сланечніка (да 40%), проса (50%), аўсянка або авёс (10%), вельмі карысна дадаваць сумесь з насення зелля. Калі кармавой сумесі няма, то можна карміць птушак семечкамі. Акрамя таго, сініцы і дзятлы любяць несалёнае сала, вераб'і, сініцы, зелянушкі, папаўзні, чыжы і дзятлы — арахіс (нельга даваць смажаныя або салёныя арэшкі і семечкі).

## Браслаўскі раён

# Рачны канал кантрабанды

■ Станіслаў Раманчук

**Апошнім часам прыбалтыйскі накірунак дзяржаўнай граніцы Беларусі стаў вельмі прыцягальным для перапраўкі рознымі спосабамі кантрабандных грузаў.**

Акрамя спроб перавозкі іх у тайніках фур адным з самых папулярных з'яўляецца спосаб дастаўкі цыгарэт па чыгунцы, схаваных у грузавых саставах у накірунку станцыі Даўгаўпілс. Калі саставы сталі пільней даглядаць, кантрабандысты прыдумалі новы арыгінальны спосаб … па вадзе. Яны глыбокай ноччу пусцілі паблізу Латвіі спецыяльны драўляны плот з грузам цыгарэт па рацэ Заходняя Дзвіна. Па разліках прадпрымальных людзей, такі плот, аснашчаны невялікім электрарухавіком і нават навігатарам, у суцэльную цемень павінен быў без перашкод даплыць да месца прызначэння на латвійскай тэрыторыі. Аднак яны не ўлічылі, што беларускія пагранічнікі пільна нясуць службу круглыя суткі. На тэрыторыі Браслаўскага раёна ночцу вартавыя граніцы заўважылі незвычайны аб'ект пры дапамозе прыбораў начнога бачання. Часу перахапіць груз у іх не заставалася, аднак інфармацыю аб ім воіны Полацкага пагранатрада перадалі сваім латышскім калегам. Латышы ў сваіх тэрытарыяльных водах сустрэлі плот, на якім былі старанна ўпакаваны 52 каробкі цыгарэт беларускай вытворчасці ў чорным поліэтылене. Кантрабандыстамі ўсё было пралічана да дробязей, тэхнічна падрыхтавана гэта пераправа і груз цыгарэт. Каб не чалавечы фактар, даплыў бы плот да месца прызначэння. Спецыяльным службам пагранведамстваў абедзвюх дзяржаў яшчэ прыйдзецца сур'ёзна папрацаваць, каб выявіць тэхнічна прасунутых зламыснікаў.

## Пастаўскі раён

# Не можа рыба без вады

■ Кастусь Александровіч

**У адрозненне ад вяскоўцаў, у работнікаў рыбаводчых арганізацый краіны ўборка вырашчанага ўраджаю “блакітнай нівы” прадаўжаецца да самай позняй восені.**

Сёлетні год для айчынных рыбаводаў быў не самым спрыяльным па кліматычных умовах, аднак больш 17 тысяч тон азёрнай і сажалкавай таварнай рыбы яны атрымалі. Аб гэтым гаварылася днямі ў рыбгасе “Навінкі” Пастаўскага раёна, на базе якога адбыўся рэспубліканскі вытворчы семінар-нарада рыбгасаў Беларусі. Месцам яго правядзення невыпадкова выбралі мясцовую гаспадарку, буйнейшую на Віцебшчыне, бо тут дабіліся найвышэйшай эфектыўнасці вырошчвання рыбы і матачнага пагалоўя. Праўда, у “Навінках” сёлета сутыкнуліся з праблемай недахопу вады і больш 100 гектараў гадавальных сажалак пуставалі. Аднак нягледзячы на цяжкасці, рыбгасаўцы вылавілі 900 тон карпу і таўсталобіка і атрымалі 104 тоны малькоў сярэдняй вагой 25 грамаў кожны, якіх хопіць для зарыблення ўсіх сямі асноўных прудоў для вырошчвання рыбы ў будучым годзе. Пасля абмеркавання задач далейшага развіцця галіны ўдзельнікі семінара з цікавасцю даведаліся, як гаспадараць у рыбгасе. Усім спадабаўся ўнікальны самаходны шматфункцыянальны агрэгат “Truxor”, які дапамагае чысціць вадаёмы, знішчае непажаданую расліннасць, умацоўвае берагі і выконвае іншыя розныя работы. Такую тэхніку рэкамендавана набываць паўсюдна, як і з дапамогай навукі зводзіць да мінімуму страты падчас зімоўкі рыбы, працаваць вынікова і эфектыўна.

## Докшыцкі раён

# Агонь пасярод ночы

■ Чэслаў Якубовіч

**Рэдка які дзень абыходзіцца цяпер, каб з розных куткоў вобласці не прыходзілі паведамленні аб розных вогненных здарэннях і гібелі людзей на пажарах.**

Хоць сапраўдных халадоў яшчэ не было, але найчасцей такія беды адбываюцца па прычыне злоўжывання алкаголем. А вось у Докшыцкім раёне звычайны сялянскі дом у вёсцы Варлань за кароткі тэрмін сёлета глыбокай восенню гарэў нават двойчы. Спачатку тут полымя выбухнула з-за неасцярожнасці пажылога гаспадара, які распальваў газавую пліту. У выніку інцыдэнта агнём былі сур'ёзна пашкоджаны дах і перакрыцці будынка. На шчасце, у гэтай мясцовасці ў мястэчку Круляўшчызна якраз адкрыўся другі па ліку ў раёне пасіянат для адзінокіх састарэлых, дзе гэты мужчына знайшоў сабе прытулак. Аднак праз пару тыдняў яму прыйшлося зноў пахваляваца. На гэты раз суседзі пад раніцу заўважылі, як зноў гэты дом загарэўся, і выклікалі пажарных. Да моманту прыезду выратавальнікаў агонь сур'ёзна ўжо разгуляўся па пустой замкнёнай хаце. Пажар быў неўзабаве патушаны, аднак цяпер яго наступствы яшчэ больш сумныя. На гэты раз полымя поўнасцю знішчыла страху і большую частку маёмасці, сур'ёзна пашкодзіла столь і сцены. Прычына пажару будзе высвятляцца, і не выключана, што яго справакавала неасцярожнае абыходжанне з агнём альбо наўмысны падпал. А вось казённы дом стане для вяскоўца асноўным, бо родная хата для нармальнага жыцця цяпер мала падыходзіць.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| Мясцовы час | Чацвер 13.12.12 | | | | Пятніца 14.12.12 | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | |
| Тэмпература | -4 | -3 | -1 | -2 | -5 | -5 | -4 | -6 |
| Ціск | 746 | 743 | 744 | 746 | 750 | 753 | 755 | 756 |
| Вільготнасць | 91 | 94 | 89 | 90 | 91 | 92 | 88 | 86 |
| Вецер м/сек | 5 У | 4 У | 5 Пд-У | 4 Пд-У | 2 Пд-З | 2 Пд | 2 Пд | 5 Пд-У |

| Мясцовы час | Субота 15.12.12 | | | | Нядзеля 16.12.12 | | | | Пнд.17.12.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -7 | -4 | -3 | -3 | -4 | -2 | -3 | -5 | -6 | -6 | -6 |
| Ціск | 757 | 756 | 755 | 754 | 753 | 752 | 752 | 751 | 751 | 752 | 752 |
| Вільготнасць | 86 | 87 | 83 | 89 | 88 | 91 | 88 | 90 | 85 | 89 | 83 |
| Вецер м/сек | 5 Пд-У | 6 Пд-У | 8 Пд-У | 10 Пд-У | 9 Пд-У | 9 Пд-У | 9 Пд-У | 10 Пд-У | 9 Пд-У | 8 Пд-У | 7 Пд-У |

# Аб самым надзённым

## Айчынная мадэль эканамічнага развіцця напрыканцы года стала чамусьці прабуксоўваць

■ Аляксандр Цішкевіч

**У кожнага можа быць свая ацэнка працэсаў, якія адбываюцца вакол нас. І нікуды мы не дзенемся ад павышэння тарыфаў на камунальныя паслугі ЖКГ і так далей. Краіна мае вялікія знешнія даўгі і ў пачатку новага года збіраецца браць новыя, размясціць свой буйны пакет еўрабондаў, аб чым паведаміў ужо кіраўнік урада, як і аб намерах прадаць нават 10-15 % акцый “Беларуськалія”. Зразумела, такія крокі не ад добрага жыцця.**

Верная прыкмета адыходзячага неўзабаве ў гісторыю чарговага года: мой знаёмы шчыра прызнаўся, што толькі на трэці дзень пошукаў змог купіць у банкаўскім абменніку неабходныя 300 долараў. Ды і іншыя землякі час ад часу ў размовах цікавяцца, як будзем жыць далей, што будзе пасля новага года і ці ўтрымае свае пазіцыі беларускі рубель? Канешне, простыя людзі далёкія ад ведання законаў макраэканомікі і, магчыма, проста не ў курсе, што эканамічны рост у Беларусі па выніках 9 месяцаў істотна запаволіўся ў параўнанні з першымі месяцамі года.

Тым часам нават заводскі эканаміст адкажа вам, што знізіліся ўжо напрыканцы лета сёлета аб'ёмы беларускай вытворчасці ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы, экспарт айчынных тавараў і паслуг. У выніку за студзень-верасень прырост ВУП склаў толькі 2,5 %, а гадавое заданне (у нас яго любяць называць прагноз), нагадаем, 5-5,5 %. З гэтай нагоды днямі ў прэзідэнцкай адміністрацыі паслухалі з дакладам кіраўніка ўрада і выявілі, які жах!, “поўны разброд і хістанне!” – цытуе БЕЛТА прэс-службу кіраўніка дзяржавы.

Беларускага лідара, як вынікае, сур'ёзна падводзяць падначаленыя, паколькі напярэдадні ён правёў сустрэчу са студэнтамі і выкладчыкамі факультэта міжнародных эканамічных адносін Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта. І такім аптымізмам свяціўся тон той шчырай размовы, галоўная выснова якой была: наша родная мадэль эканамічнага развіцця, аказваецца, прайшла праверку часам. Аднак давайце спусцімся на грэшную зямельку і проста паслухаем спецыяліста, дасведчанага ў рангу намесніка кіраўніка эканамічнага ведамства.

Дык вось нам Міністр эканомікі Беларусі Аляксандр Ярашэнка сказаў прамым тэкстам: у прамысловасці цяпер эканамічны рост 0, у будаўніцтве ён адмоўны і нават у сферы АПК прырост ВУП зусім нязначны. Родныя калгасы, між іншым, маюць агромістыя даўгі перад дзяржавай у памеры 3,2 трыльёны рублёў. А далей болей. Асноўныя донары дзяржбюджэту і дабытчыкі валюты Беларуськая калійная і нафтавыя кампаніі знізілі на 20 % экспартныя продажы сваёй прадукцыі, хоць і прыйшлося знізіць цэны для захавання пазіцый на знешніх рынках. У сельскай гаспадарцы таксама працягваецца спад, а агульны сумны малюнак дапаўняе тое, што не выконваюцца планы па зніжэнні энергаёмкасці і матэрыялаёмкасці беларускай прадукцыі.

Для звычайнага абывацеля патлумачу, што абсталяванне на нашых заводах і фабрыках састарэлае, тавары выходзяць дарагія і не надта канкурэнтназдольныя. А вось што ў нас стабільна расце, многія адразу здагадаліся – гэта цэны. Па выніках 10 месяцаў узровень інфляцыі склаў 18,1 %, пры тым, што ўжо летам рост заробкаў стаў апярэджаць рост прадукцыйнасці працы, а на месцах патрабуюць зноў дабіцца сярэднямесячных зарплат на ўзроўні 500 долараў. Як і раней у нас вельмі туга і з прыцягненнем прамых замежных інвестыцый.

Дайшло ўжо да таго, што і А. Лукашэнка гаворыць, што “будзе вельмі цяжкі будучы год”. Праўда, на той нарадзе прэм'ер-міністр з крытыкай пагадзіўся і запэўніў, што ўсе зацверджаныя раней абавязацельствы і новыя даручэнні, безумоўна, будуць выкананы. Скажам шчыра, штосьці слаба ў гэта верыцца і навучаныя беларусы горкім вопытам сваім, бо і цяпер банкі спынілі выдзяленне крэдытаў на пакупку жылля, абмежавалі магчымасці валютнага крэдытавання юрыдычных асоб. Аб чым гэта гаворыць?

У кожнага можа быць свая ацэнка працэсаў вакол нас. І нікуды мы не дзенемся ад павышэння тарыфаў на камунальныя паслугі ЖКГ і так далей. Краіна мае вялікія знешнія даўгі і ў пачатку новага года збіраецца браць новыя, размясціць свой буйны пакет еўрабондаў, аб чым паведаміў ужо кіраўнік урада, як і аб намерах прадаць нават 10-15 % акцый “Беларуськалія”. Зразумела, такія крокі не ад добрага жыцця. А праўда ў тым, што калі нашы флагманы беларускай эканомікі не забяспечаць далейшага прытоку валюты ў РБ, то тэарэтычна магчыма аслабленне нашага рубля і на 5% і на 20 % і, магчыма, болей, паколькі ўтварэнне курсаў замежных валют зараз свабоднае…

## Дзень за днём

**Вытворчасць і рэалізацыя з 1 студзеня 2013 года ў Беларусі пладова-ягадных він (чарніла) будуць спынены па рашэнні ўрада. Расійскі "Газпрам" выказаў жаданне павысіць на 30 % транзіт свайго газу праз Беларусь, бо кошт такіх паслуг значна ніжэйшы, чым ва ўкраінцаў. Аналаг сусветнай службы выратавання "911" можа з'явіцца неўзабаве і ў нас, а ва ўрадзе пачалі думаць аб стварэнні 25-га па ліку Міністэрства прамысловай палітыкі. Не паспеў пачаць сваю дзейнасць Следчы камітэт РБ, як колькасць яго супрацоўнікаў будзе скарочана. За здачу ў паднаём жылля без выплат падаткаў аштрафавалі ўжо больш 650 сем'яў мінчан. У МУС РБ заявілі, што на ўлік узяты цяпер 1900 беларусак-прастытутак.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Авіябаза Юма ў штаце Арызона атрымала навейшую і лепшую ў свеце эскадрыллю знішчальнікаў 5-га пакалення, практычна незаўважных для радараў тэхналогіі стэлс.

**Сірыя.** Паблізу сталіцы паўстанцы захапілі буйную ваенную базу, кааліцыю сірыйскай апазіцыі прызнаў услед за Францыяй, Італіяй і ЕС, паабяцаў ёй усебаковую дапамогу.

**Егіпет.** Лідары апазіцыі абвінавацілі прэзідэнта-ісламіста Махамеда Мурсі ў дзяржаўным пераваароце, спробе ўзурпацыі ўлады і заклікалі егіпцян да масавых акцый пратэсту.

**Іспанія.** Урад краіны забараніў банкам адбіраць у людзей жыллё, якія не могуць на працягу 2-х гадоў выплаціць іпатэку і не выселяць тых, у каго ўзніклі такія даўгі.

**Польшча.** Спецслужбы арыштавалі супрацоўніка Кракаўскага ўніверсітэта, які рыхтаваў выбух у польскім Сейме і тэракт супраць прэзідэнта, захапляўся тэрарыстам Брэйвікам.

**ЗША.** Нягледзячы на рэзалюцыю ААН з асуджэннем блакады Кубы, амерыканцы не адменяць дзеючыя санкцыі, бо за год кубінскі рэжым правёў больш 4 тысяч палітычных арыштаў.

**Украіна.** Парламент краіны прыняў новы закон, які прадугледжвае ўвядзенне для ўкраінцаў біяметрычных пашпартоў з электроннымі чыпамі параметраў чалавека.

**Літва.** Сейм краіны зацвердзіў новым прэм'ер-міністрам 54-гадовага сацыял-дэмакрата, доктара эканамічных навук Альгірдаса Буткявічуса, раней ён займаў пасаду міністра фінансаў.

**Грузія.** Новы прэм'ер-міністр краіны мільярдэр Бідзіна Іванішвілі заявіў, што ніколі не паедзе ў Расію, пакуль у Масквы будуць дзейнічаць пасольствы ў Абхазіі і Асеціі.

**Англія.** Яшчэ мінімум на 5 гадоў Генеральны сінод англійскай царквы адклаў рукапалажэнне жанчын у сан біскупаў, трэць англійскіх святароў - ужо слабы пол.

**Сінгапур.** Сумленны таксіст вярнуў сваім пасажырам – сямейнай пары з суседняга Тайланда - забытыя імі ў салоне машыны пакет, у якім знаходзіліся 900 тысяч долараў.

**ЗША.** Раніцай у тумане на дарозе ля горада Бамонт у штаце Тэхас сутыкнуліся 150 машын і грузавікоў, у выніку ДТЗ пацярпелі больш 120 чалавек, былі ахвяры, шмат параненых.

**Расія.** На тэрыторыі парка культуры і адпачынку імя Горкага ў Маскве будзе працаваць для наведвальнікаў буйнейшы ў Еўропе ўсепагодны адкрыты каток плошчай 18 тысяч квадратных метраў.

**Польшча.** У атрыманні доўгатэрміновай беларускай візы консульства РБ у Беластоку зноў адмовіла старшыні Саюза беларусаў у Польшчы Яўгену Вапу, які кіруе і "Радыё Рацыя".

**Мексіка.** Прэзідэнт Феліпе Кальдэрон прапанаваў выключыць з афіцыйнай назвы краіны з 1824 года словы "Злучаныя Штаты" і называць яе проста "Мексіка".

# Беларусь атрымае чарговыя $440 мільёнаў ад ЕЎрАзЭС



■ БелаПАН

**Савет Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС 7 снежня на пасяджэнні ў Мінску ўхваліў выдзяленне Беларусі чарговага транша крэдыту ў $440 мільёнаў. Пра гэта паведаміў міністр фінансаў Расіі Антон Сілуанаў.**

«Рашэнне прынята станоўчае. Мы мяркуем, што ўсе неабходныя дакументы для яго прыняцця былі падрыхтаваныя», — сказаў ён.

Пры гэтым расійскі міністр заявіў, што не варта звязваць гэтае рашэнне з палітычнымі момантамі: «Магу вас запэўніць, што ніякай палітыкі не было. Гэта чыстая эканоміка».

Паводле слоў Сілуанава, увесь пералік мерапрыемстваў, прадугледжаных для выдзялення чацвёртага транша крэдыту, выкананы. Асобныя паказчыкі былі адкарэктаваныя, зазначыў ён.

Пры прыняцці рашэння выкананне Беларуссю паказчыкаў па прыватызацыі дзяржуласнасці на 2,5 мільярдаў долараў не было вызначальным, заявіў кіраўнік Мінфіна РФ.

«Пытанне прыватызацыі — гэта пытанне чарговага этапу рэалізацыі праграмы. Будзем яго разглядаць у наступным годзе», — сказаў міністр.

Адказваючы на пытанне пра тэрміны пералічэння ў Беларусь чарговага транша, Сілуанаў заявіў, што «грошы паступяць у найбліжэйшым часе».

Пагадненне паміж Беларуссю і Еўразійскім банкам развіцця (ЕАБР), які кіруе сродкамі АКФ ЕўрАзЭС, па выдзяленні крэдыту на 3 мільярды долараў шасцю траншамі было падпісана 9 чэрвеня 2011 года.

Першы транш на 800 млн. долараў быў пералічаны ў Беларусь 21 чэрвеня 2011 года, яшчэ 440 мільёнаў долараў — у снежні 2011-га.

У 2012 годзе Беларусь павінна атрымаць два траншы па 440 мільёнаў . долараў кожны. Трэці транш быў атрыманы ў чэрвені і залічаны ў золатавалютныя рэзервы краіны. У чэрвені намеснік міністра фінансаў РФ Сяргей Старчак выказаў меркаванне, што Беларусь мае ўсе шанцы да канца года атрымаць чацвёрты транш.

Атрыманне гэтых сродкаў здымае патрэбу тэрміновых перамоваў з МВФ. Цікава, што крэдыт выдзяляецца, нягледзячы на той факт, што ўмовы праграмы Беларуссю не споўненыя. У прыватнасці, Мінск не атрымаў у 2012-м ад прыватызацыі 2,5 мільярды даляраў, як таго прадугледжвала дамова, падпісаная ў 2011 годзе.

Засталося ўзяць яшчэ два траншы ў наступным годзе.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Старшыня праўлення Нацбанка РБ Н. Ермакова адвергла блізкую верагоднасць дэвальвацыі нацвалюты, прызнала праблемы з атрыманнем 4-га транша крэдыта ЕўрАзЭС

**Горкі.** Пабудаваны да "Дажынак" новы культурна-забаўляльны комплекс з амфітэатрам закрылі на рамонт, бо ён стаў працякаць пасля дажджоў, узводзіўся 9 замест 27 месяцаў.

**Івацэвічы.** Яшчэ ў паветры А. Лукашэнка ўбачыў з верталёта факты безгаспадарчасці на старым прадпрыемстве "Івацэвічыдрэў" і рашыў звольніць яго гендырэктара Б. Міхнюка.

**Дзяржынск.** Пажар, які адбыўся позна вечарам на птушкафабрыцы мясцовага агракамбіната, знішчыў амаль 50 тысяч куранят, пацярпеў і трапіў у бальніцу рабочы.

**Астравец.** На будпляцоўцы будучай АЭС ужо залілі амаль палову бетону пад 1-м энергаблокам, падалі цяпло ў 2 сталовыя для рабочых на 650 пасадачных месцаў.

**Мінск.** Міністр транспарту і камунікацый РБ А. Сівак заявіў, што плануецца пусціць пасажырскія паязды са сталіцы да Нацыянальнага аэрапорта "Мінск" праз Смалявічы.

**Жодзіна.** Дырэкцыя аднаго з флагманаў айчыннай эканомікі плануе ў 2013 годзе прадаць 15-20 % акцый БелАЗа на міжнароднай ІРО, хутчэй усяго Франкфуртскай біржы.

**Гродна.** Улады вобласці заключылі пагадненне з галандскай фірмай Blue Eagle Private Equity аб пабудове ў горадзе новага гатэля, такую гасцініцу галандцы ўзвядуць і ў Брэсце.

**Магілёў.** На пасяджэнні гарвыканкама мэр горада Станіслаў Барадаўка заявіў, што ў Беларусі неўзабаве ўвядуць змешаную сістэму выбараў, як у суседніх РФ і ва Украіне.

**Брэст.** Супрацоўніца мытні ў вядры душавога аддзялення ў купэ цягніка Масква-Парыж знайшла "нічыйных" 100 тысяч еўра, якія былі канфіскаваны, як безгаспадарчыя.

**Калінкавічы.** На вуліцы ў вёсцы Азарычы 24-гадовы хлопец беспадстаўна спачатку збіў 17-гадовага падлетка, а потым 6 разоў стрэліў яму ў шыю з пнеўматычнага пісталета.

**Гродна.** Спектакль абласнога тэатра лялек "Пікавая дама" прызналі лепшай пастаноўкай года ў Беларусі, ён атрымаў у Мінску галоўную Нацыянальную тэатральную прэмію.

**Мінск.** На 22-м годзе дзейнасці рэдакцыя папулярнай газеты "Прэссбол" выставіла сябе на продаж, яна хоча захаваць сваю папяровую версію і пачаць выходзіць у Інтэрнеце.

**Бабруйск.** Палітвязень мясцовай калоніі Алесь Бяляцкі сваю міжнародную прэмію Келі ў памеры 10 тысяч еўра перадаў на падтрымку праваабарончай дзейнасці ў Беларусі.

**Маладзечна.** У парках горада ўпершыню ўбралі апаўшае лісце з дапамогай набытага за 62 млн. рублёў перасоўнага садовага чэшскага пыласоса, ён замяніў 5 адзінак тэхнікі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Камітэт па правах чалавека ААН прызнаў парушэнні ў справе па выбуху ў метро ў дачыненні расстралянага У. Кавалёва – парушаны правы на жыццё, быў ціск на яго.

**Глыбокае.** На мясцовым камбікормавым заводзе ўпершыню паспрабавалі перапрацоўваць насенне сланечніку і выраблядь алей, сёлета экспарт прадукцыі ў РФ вырас у 4 разы.

**Гарадок.** Каб схаваць факты безгаспадарчасці, на двух палях побач з вёскай Радчанкі, на якіх вырошчваў лён мясцовы льнозавод, няўбраны гнілы даўгунец проста зааралі.

**Сураж.** Толькі пасля звароту людзей да галоўнага інспектара па Віцебскай вобласці М. Дамашкевіча ў гарпасёлку ліквідавалі сметнікі на вуліцах і дварах і вывезлі ўсё смецце.

**Дуброўна.** На тэрыторыі раёна паблізу граніцы з РФ міліцыя затрымала на дарозе КамАЗ з грузам, на якім расіянін перавозіў адразу 28 коней без суправаджальных дакументаў.

**Віцебск.** Трамвайны парк атрымаў яшчэ 6 новых беларускіх вагонаў вытворчасці ААТ "Белкамунмаш", да канца года і ў пачатку студзеня паступяць на кантракце 14 астатніх вагонаў .

**Лёзна.** Праверка Дзяржкантролю выявіла на гандлёвых аб'ектах мясцовай базы грубыя парушэнні санітарных норм і правіл захоўвання і рэалізацыі залежалых прадуктаў.

**Віцебск.** У буйнейшым у вобласці аўтапарку № 1 не хапае 110 вадзіцеляў са 450 па штаце, адсюль сёлета звольніліся 188 чалавек, большасць з іх з'ехалі ў Расію, бо заробкі вышэй.

**Полацк.** Адразу 3 чалавекі загінулі ноччу на пажары ў горадзе пасля п'янага дэбошу, прыйшлося эвакуіраваць і 15 суседзяў з верхніх этажоў з-за моцнага задымлення.

**Браслаў.** У аграгарадку Ахрэмаўцы ў былой сталовай торфабрыкетнага завода адкрылі кафэ "Бельмонты" з лазняй, більярднай, вясной тут запрацуе і міні-гасцініца з 5 пакояў.

**Чашнікі.** Суд раёна пакараў штрафам у суме 10 базавых велічынь (1 млн. рублёў) 22-гадовую маціадзіночку, якая відэльцам параніла падчас спрэчкі бацьку з Новалукомля.

**Варапаева.** З-за моцнай дэпрэсіі наклаў на сябе рукі адзінокі ціхі мужчына і стаў 21-м па ліку з тых, хто сёлета ў Пастаўскім раёне паконччыў жыццё самагубствам.

**Глыбокае.** Дзякуючы маладому суседу не атрымаў апёкі вечарам на пажары 76-гадовы адзінокі пенсіянер з вёскі Квачы, але агонь знішчыў дах і столь хаты, пашкодзіў маёмасць.

**Наваполацк.** Вечарам 31-гадовы мужчына на моцным падпітку спыніў працу пункта калектыўнага карыстання Інтэрнетам на вузле электрасувязі, пашкодзіў там маёмасць.

**Віцебск.** На плошчы Перамогі з'явілася галоўная ёлка вобласці вышынёй 34,5 метры, святочны настрой узмацняе гірлянда 6 тыс. лямпачак, яна пачне зіхацець перад Калядамі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# “Мікалайкі” атрымаліся!

Іна СНЯЖКОВА.
*Фота Альфрэда Мікуса.*

**9 снежня ў Лучаі святкавалі “Мікалайкі”. У касцёле прысутнічалі не толькі вернікі, але і ганаровыя госці – здымачная група Белтэлерадыёкампаніі, вядомы бард з Гродна Віктар Шалкевіч і нават… святы Мікалай.**

Урачыстую імшу правёў мясцовы ксёндз Мікалай Ліпскі. Ён расказаў парафіянам пра жыццё і дзейнасць свайго анёла-ахоўніка, аднаго з самых шануемых заступнікаў хрысціян.

Святы Мікалай нарадзіўся прыблізна ў 270 годзе на тэрыторыі сучаснай Турцыі. З малых гадоў ён прысвяціў сябе служэнню Богу, быў епіскапам горада Міры. У часы ганенняў на хрысціян Мікалай быў заключаны ў турму, дзе правёў цэлых восем гадоў. Нягледзячы на катаванні, працягваў прапаведваць хрысціянства. Толькі пасля прыходу да ўлады імператара Канстанціна епіскап зноў стаў правіць сваёй паствай. Быў ён і ўдзельнікам першага Сусветнага Сабору, які праходзіў у 325 годзе ў Нікеі. З гістарычных крыніц вядома, што епіскап Мікалай выступіў абаронцам трох несправядліва прыгавораных да смерці візантыйцаў.

Пра іншыя добрыя справы святога ў народзе складзены паданні, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне. Яны расказваюць пра тое, як Мікалай дапамагаў бедным і абяздоленым, а дзецям падкідваў манеткі і ежу ў выстаўленыя за дзверы боцікі. Яшчэ адна легенда апавядае, як ён дапамог беднай дзяўчыне выйсці замуж за каханага, даўшы ёй грошы на пасаг.

У 10 стагоддзі ў Кёльнскім саборы ў дзень памяці святога Мікалая (6 снежня) вучням царкоўнай школы пачалі раздаваць салодкія пачастункі. А пазней у Германіі ў дамах сталі вывешваць боцікі і панчошкі для таго, каб святы паклаў туды падарункі дзецям. Гэтыя традыцыі хутка распаўсюдзіліся па Еўропе.

Паслухмяных дзетак святы Мікалай не пакідае без прэзентаў. У гэтым у нядзелю пераканаліся маленькія вернікі лучайскай парафіі. Яны атрымалі салодкія падарункі ад еўрапейскага “калегі” Дзеда Мароза, які завітаў у касцёл у кампаніі залатакрылых анёлаў. Здзіўленых дзіцячых поглядаў і шчырых усмешак было не злічыць!

**У хуткім часе на экраны канала “Беларусь-1” выйдзе відэафільм пра Лучайскі касцёл св. Юды Тадэвуша. Сачыце за праграмай!**

Дарослым дадало настрою жывое, эмацыйнае, прасякнутае тонкім пачуццём гумару выступленне барда Віктара Шалкевіча. Перад вернікамі выступілі і лучайцы — у вершаванай форме яны павіншавалі з імянінамі ксяндза Мікалая Ліпскага, пажадаўшы яму Божага благаслаўлення для далейшых спраў.

На святой імшы прысутнічалі пілігрымы з Пастаўскага і Шаркаўшчынскага раёнаў, якім сёлета пашчасціла пабываць ля мошчаў св. Мікалая ў Бары (пра падарожжы беларусаў у Італіі “Каталіцкі веснік” пісаў у мінулым нумары).

На святе працавала здымачная група Белтэлерадыёкампаніі. У хуткім часе на экраны канала “Беларусь-1” выйдзе відэафільм пра Лучайскі касцёл св. Юды Тадэвуша. Сачыце за праграмай!






**Папулярны бард і тэлевядоўца Віктар Шалкевіч.**





## Рапота прапануе ўвесці «саюзную» візу

**Прапрацоўваецца пытанне аб увядзенні візы «саюзнай дзяржавы».**

Аб гэтым паведаміў журналістам дзяржсакратар «саюзнай дзяржавы» Рыгор Рапота, перадае БелТА.

Гаворачы аб парадку дня пасяджэння Савета Міністраў «саюзнай дзяржавы» 12 снежня ў Маскве, Рыгор Рапота адзначыў, што адным з пытанняў будзе праграма ўзмацнення бяспекі на мяжы «саюзнай дзяржавы».

У прыватнасці, будзе абмяркоўвацца неабходнасць увядзення візы СД. Спачатку гэтае пытанне абмяркуюць на ўзроўні экспертаў, затым вырашаць, ці ўводзіць яе наогул і як хутка.

## Віншаванкі

**Шаноўны ксёндз пробашч**

*Мікалай Ліпскі!*

**З Днём Апякуна віншуем сардэчна!**



Хай адорыць Вас ласкаю Бог.
Сеяць добрае, мудрае, вечнае -
Ваш бясцэнны святарскі доўг.
На вялікую плённую працу
Хай натхняе Вас Дух Святы,
Апякункаю Божая Маці
І заступніцай будзе заўжды.
Колькі спраў і задумаў новых!
Для парафіі жыць і тварыць -
Гэта з Вашай ідэі натхнёнай
Гімн Лучайскай святыні гучыць.
З Вашай ласкі шляхі пілігрыма
Зведаць нам давялося не раз.
Шчыра зычым у Дзень Імянінаў
Шчодрых Божых дароў для Вас.

*З удзячнасцю Вашы Лучайскія парафіяне.*

# Пайшоў з жыцця Антон Сабалеўскі, ветэран беларускага руху ў Маскве

## Адзін з тых людзей, дзякуючы чыім шматгадовым намаганням у цэнтры Масквы з'явіўся помнік Янку Купалу



Прыйшла сумная навіна, што на пазамінулым тыдні не стала Антона Сабалеўскага, аднаго з ключавых людзей беларускага жыцця ў Маскве ад канца 80-х.

Ён нарадзіўся ў 1926 годзе ў Глыбокім у сям’і беларускамоўных настаўнікаў і актывістаў нацыянальнага руху. Скончыў Беларускі палітэхнічны інстытут. Да 1981 г. служыў у войску, даслужыўся да ступені палкоўніка. Пасля адстаўкі працаваў у нафтагазавай прамысловасці. У Маскве жыў ад 1952 года.

У 1989 годзе Антон Сабалеўскі быў сярод заснавальнікаў, а потым - шматгадовым членам Рады маскоўскага Таварыства беларускай культуры імя Скарыны — найстарэйшай дзеючай арганізацыі беларускай дыяспары ў Маскве.

Адзін з ключавых людзей, дзякуючы чыім шматгадовым намаганням у цэнтры Масквы, на адной з самых ажыўленых вуліц, у сярэдзіне 2000-х гадоў паўстаў помнік Янку Купалу.

**За ўласныя грошы выкупіў і падараваў бронзавую статую Янкі Купалы (адзін з эскізаў да маскоўскага помніка) этнаграфічнаму музею свайго роднага Глыбокага.**

Памятаю, на З’ездзе беларусаў свету 2005 года на трыбуну выйшаў нейкі расійскі чыноўнік у дарагім гарнітуры і неахвотна выбачыўся перад публікаю: «Я двадцать лет живу в Москве и уже забыл родную мову». Пасля ягонага выступу на трыбуну імкліва ўзышоў пан Сабалеўскі і пачаў сваю прамову словамі: ***«Я жыву ў Маскве ўжо пяцьдзясят гадоў. Але беларускую мову не забыў».***

Паболей бы такіх людзей. Светлая памяць!

*Алесь Чайчыц.*

# Прыйшоў час набываць навагоднюю ялінку

**А.Г. Абрамчык,**
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслінага свету.*

**Снежань – апошні месяц года. З набліжэннем Навагодніх святаў ён прыносіць шмат клопатаў. Наступае час падумаць аб пакупцы навагодняй елкі.**

Які і кожны год на тэрыторыі раёна будуць арганізаваныя переднавагоднія елкавыя кірмашы, на якіх і неабходна набываць елкі. Але, нягледзячы на ўсе высілкі лясгасаў забяспечыць грамадзян навагоднімі елкамі па вельмі даступных коштах, знаходзяцца грамадзяне, якія жадаюць займець навагоднюю прыгажуню дарма, але, як вядома, «бясплатны сыр толькі ў пастцы».

Паводле пастановы Міністэрства лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь ад 20 сакавіка 2001 года №4, пункт 53: «Нарыхтоўка навагодніх елак ажыццяўляецца:

- на адмыслова створаных плантацыях навагодніх елак;
- пры правядзенні рубак догляду ў лясах з ліку дрэў, якія высякаюцца ў адпаведнасці з лесаводчымі патрабаваннямі;
- у парадку расчысткі трас, прасек, палос адводу, ліній электраперадач, лесасеках галоўнага карыстання і суцэльных санітарных рубак, калі на дадзеных лесасеках падрост не падлягае захаванню».

Самастойна займацца нарыхтоўкай елак грамадзяне не маюць права. За незаконную парубку дрэў паводле арт. 15.22 КоАП Рэспублікі Беларусь прадугледжваецца адміністрацыйная адказнасць ад 5 да 50 базавых велічынь, а на індывідуальных прадпрымальнікаў ад 20 да 200 базавых велічынь, таксама парушальнік аплачвае нанесены ўрон. Пры перавозцы елкі ва ўладальніка пры сабе павінна быць квітанцыя, якая пацвярджае законнасць яе набыцця.

У мэтах прадухілення незаконных парубак елак супрацоўнікамі міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслінага свету сумесна з работнікамі лясгасаў і міліцыі штодня будуць праводзіцца рэйдавыя мерапрыемствы, затрыманыя за парушэнні грамадзяне будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці.

Каб ваш настрой не быў сапсаваны ў Навагоднія святы, рэкамендуем набываць елкі ў месцах іх законных продажаў.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведамляць па тэлефонах: 8-02156-2-86-70 «гарачая лінія», мабільныя 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

# Падведзеныя вынікі спаборніцтваў па настольным тэнісе сярод працоўных калектываў Глыбоцкага раёна

**Яўген Самсонаў**

**8 снежня ў будынку Глыбоцкага ЦФАП праходзілі раённыя спаборніцтвы па настольным тэнісе. Гэта былі прадапошнія спаборніцтвы, якія ўваходзяць у праграму круглагадзічнай раённай Спартакіяды сярод працоўных калектываў 2012 года.**



Згодна судзейскага пратакола, заяўкі на ўдзел у турніры па настольным тэнісе падала 12 каманд, але цалкам укамплектаваных было менш паловы.

У камандным заліку пераможцам стала каманда "Ліцэй", на другім месцы – "Ахова" і трэцім прызёрам стала каманда "Райпо". Каманды: ЖКГ, ДЭУ-35, Камбікормавы з-д, Энергазбыт, ЦРБ, А\П №16, Мясакамбінат, БРСМ і Аграсервіс занялі адпаведна з 4 па 12 месцы.

У асабістым заліку пераможцам сярод жанчын стала Алена Булло (ЖКГ). Марына Івашкевіч (Ліцэй) – другое месца, а на трэцім месцы Надзея Шарабайка (Мясакамбінат).

Сярод мужчын абсалютным пераможцам стаў Сяргей Паляк (Ахова). Сяргей Прахаронак і Ігар Хаткевіч (Ліцэй), якія выступалі ў асабістым заліку, падзялілі 2 і 3 месцы.

Напрыканцы года варта сказаць колькі слоў увогуле аб круглагадзічнай працоўнай Спартакіядзе Глыбоцкага раёна. Скажам прама – назіраецца спад масавай зацікаўленасці да спорту як з боку працоўных калектываў, так і чыноўнікаў, якія адказныя за стан спорту ў раёне. Заканчваецца Спартакіяда 2012 года, але яшчэ афіцыйна не падведзеныя вынікі Спартакіяды 2011 года. Напрыклад, КФК УП ЖКГ Глыбоцкага раёна стаў сярэбраным прызёрам круглагадзічнай раённай працоўнай Спартакіяды 2011 года, але не мае нават Граматы, а гэта значыць і магчымасці, каб хадайнічаць перад адміністрацыяй прадпрыемства аб заахвочванні лепшых спартоўцаў па выніках 2011 года.




Справа – пераможца турніру Алена Булло і бронзавы прызёр Надзея Шарабайка.

У мэтах сапраўднай папулярызацыі заняткаў фізкультурай і спортам у працоўных калектывах, на думку аўтара гэтых радкоў, не грэх бы спартыўнаму кіраўніцтву раёна падсумаваць вынікі круглагадзічнай працоўнай Спартакіяды 2012 года загадзя. Агучыць іх 15 снежня па заканчэнні апошніх спаборніцтваў па дартсу. Выйсці з прапановай да старшыні райвыканкама запрасіць усіх кіраўнікоў прадпрыемстваў і арганізацый Глыбоцкага раёна на гэта ўрачыстае мерапрыемства. Нават можна было прапанаваць правесці спаборніцтвы па дартсу і сярод іх.

# Слабы лёд ужо забірае ахвяры

**В.Е. Катовіч,**
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслінага свету.*

Паляванне - адно з найлюбых захапленняў грамадзян. Шмат хто з паляўнічых адмыслова бяруць адпачынак у зімовы час, каб заняцца паляваннем, першым чынам, на пушнога звера. З прыходам снежня зіма стала набіраць моц: выпаў снег, кожны дзень крапчэе мароз. Для паляўнічых, якія займаюцца лоўляй пушнога звера, - гэта як бальзам на сэрца. Сканчаецца загоннае паляванне на капытных, хутка можна будзе паляваць толькі на кабана з вышкі. Шмат робіцца паляўнічымі для павелічэння пагалоўя дзікіх жывёл: абсталёўваюцца кармушкі, нарыхтоўваецца корм да зімы, засяваюцца цэлыя кармавыя палі - усё для таго, каб у зімовы час жывёлам было лягчэй з кормам, асабліва маладняку. Але не для ўсіх грамадзян закон пісаны, браканьеры не спяць, для іх сезон палявання - цэлы год. Страляюць усё запар: казулю, кабана, зайца. Галоўнае - застрэліць, а самка гэта ці самец - ужо не важна, хоць асноўная маса дзікіх жывёл у гэты час чакае нашчадкаў.

Прыродаахоўныя органы сумесна з арандатарамі паляўнічых угоддзяў штодня, практычна кругласутачна, ахоўваюць звяроў, але, на жаль, да кожнага звера персанальнага ахоўніка не прадставіш.

26 лістапада 2012 года ў паляўнічых угоддзях Пастаўскай РОС РГГА «БТПР» супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі выяўлена туша незаконна здабытага лася і туша казулі еўрапейскай. Браканьерам удалося схавацца. Спадзяемся, супрацоўнікі Пастаўскага РАУС праявяць прафесіяналізм і вінаватыя ў браканьерстве панясуць пакаранне. Як і раней вельмі часта паляўнічыя парушаюць тэхніку бяспекі на паляванні: не разраджаюць стрэльбы пры сустрэчы з грамадзянамі, перавозяць незачахлёную зараджаную зброю, страляюць па зверу на вялікіх адлегласцях, у кірунку населеных пунктаў, і здзяйсняюць іншыя парушэнні, хоць зброя - крыніца падвышанай небяспекі і нядбалага стаўлення да сябе, не прабачае.

Хацелася б яшчэ раз звярнуцца да рыбаловаў-аматараў і нагадаць ім аб выкананні мер засцярогі на першым лёдзе, які яшчэ не адужэў і, на вялікі жаль, ужо забірае першыя ахвяры. 8 снежня бягучага года на возеры Сяргеевіцкае (Заражжа) Пастаўскага раёна патанулі два зусім маладых жыхары Докшыцкага раёна, адзін апынуўся ў бальніцы. Гэта вялікая трагедыя для блізкіх людзей. Грамадзяне, будзьце асцярожны!

Супрацоўнікі міжрайінспекцыі выказваюць велізарную падзяку грамадзянам, якія аказваюць дапамогу ў барацьбе з парушальнікамі прыродаахоўнага заканадаўства.

Пра ўсе парушэнні вы можаце паведамляць на тэлефон «гарачая лінія»: 8-02156-2-86-70-кругласутачна, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

# Абитуриент – 2013

**Для тех юношей и девушек, кто решил посвятить свою жизнь служению народу и уже определился с будущей профессией, будет интересна информация об учреждениях образования системы МВД.**

Порядок приема абитуриентов в учреждение образования «Академия Министерства внутренних дел Республики Беларусь»:

Абитуриенты, поступающие на дневную форму обучения, сдают три вступительных испытания в форме централизованного тестирования по:

- Государственному языку (белорусский или русский - на выбор);
- Математике;
- Обществоведению.

Зачисление в Академию МВД по всем формам обучения проводится по конкурсу в соответствии с Правилами приема. Конкурс среди абитуриентов проводится в рамках специальностей и специализаций - на факультет милиции, в рамках специальностей на следственно-экспертном факультете.

В 2012 году проходной балл по факультету милиции специальность правоведение 160 баллов (1:2,5), по специальности экономическое право – 204 (конкурс 1:4). По следственно-экспертному факультету по специальности правоведение – 145 (конкурс 1:1), по специальности судебная экспертиза – 222 (для юношей) и 304 (для девушек).

Срок обучения на очном отделении 4 года, на факультете подготовки иностранных специалистов Московского университета МВД России - 5 лет.

Курсанты 1-го и 2-го курсов проживают в общежитии, 3-го 4-го и 5-го курсов могут проживать дома (г.Минск), либо на квартире. Два раза в год (зимой, летом) курсантам предоставляется каникулярный отпуск продолжительностью, соответственно, 14 и 30 суток. В Академии работают спортивные секции, кружки художественной самодеятельности и народного творчества. Курсанты обеспечиваются достойной стипендией.

Порядок приема абитуриентов в учреждение образования «Могилевский колледж МВД Республики Беларусь»:

Колледж готовит юристов высшей квалификации по следующим специализациям: административно-правовая деятельность; оперативно-розыскная деятельность.

В колледж на обучение по дневной форме получения образования за счет средств бюджета на конкурсной основе принимаются граждане Республики Беларусь мужского пола, способные по своим личным, моральным и деловым качествам, состоянию здоровья выполнять задачи, возложенные на органы внутренних дел Республики Беларусь, имеющие общее среднее образование или профессионально-техническое образование с общим средним образованием либо среднее специальное образование и прошедшие профессиональный отбор.

В 2012 году проходной балл по специальности правоведение специализации оперативно-розыскная деятельность составил 145 баллов (конкурс 1:3), по специальности административно-правовая деятельность – 128 (конкурс 1:2,5).

По вопросам порядка и сроков предоставления документов необходимо уже сейчас обращаться в Глубокский РОВД (пл. 17 Сентября, 5) тел. 2-25-39, мтс: 3054034, велком: 3454034. Дополнительную информацию можно узнать на сайтах учреждений образования.

***Шишко Игорь Петрович,***
*заместитель начальника Глубокского РОВД по идеологической работе и кадровому обеспечению.*

# Падступства безгаспадарлівасці!

**В.Л. Белы,**
*старэйшы інспектар ліцэнзійна-кантрольнай групы Глыбоцкага аддзела Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь, маёр міліцыі.*

Закон ад 08.11.2006 года №175-З «Пра ахоўную дзейнасць у Рэспубліцы Беларусь» вызначыў, што арганізацыі, якія не валодаюць правам стварэння ваенізаванай аховы, маюць права ажыццяўляць ахоўную дзейнасць сіламі работнікаў аховы. Пры гэтым такая дзейнасць ажыццяўляецца на падставе адмысловых дазволаў (ліцэнзій) на ахоўную дзейнасць. Усё с/г прадпрыемствы раёна звярнуліся ў ліцэнзавальны орган і атрымалі адмысловыя дазволы на ажыццяўленне ахоўнай дзейнасці, за выключэннем ААТ «Салаўінае», а таксама атрымалі ліцэнзіі гарадскія школы №№ 1,2,3 і 5 сельскіх школ: Галубіцкая, Падсвільская, Празароцкая, Мярэцкаўская, Азярэцкая. Не выкананне ўмоў і правілаў ажыццяўлення ахоўнай дзейнасці і не ажыццяўленне належнага кантрольна-пропускного рэжыму прывяло да шэрагу крадзяжоў у другім паўгоддзі 2012 года, бо асобы, ахвотныя пажывіцца за кошт іншых ,не дрэмлюць, так:

- 16.08.2012 года ў СХФ «За Радзіму» неўсталяваная асоба з трактара «Беларус»- 3022ДЦ-1, які стаяў на тэрыторыі мехмайстэрняў у в. Удзела выкрала размеркавальнік;
- 12.09.2012г. з тэрыторыі вытворчай базы УП ЖКГ Глыбоцкага раёна на зав. Ламаносава, 9 неўсталяваная асоба выкрала 4 пакаванні ўцяпляльнай ваты;
- 15.09.2012г. неўсталяваны злачынец з трактара «МТЗ-2522», які знаходзіўся на ахоўванай тэрыторыі мехдвара СПФ, размешчанага ў в. Мнюта, здзейсніў крадзеж блока ўпраўлення рухавіка;
- 24.09.2012 г. МТФ «Івесь» КУПСХП «Яблынька» неўсталяваная асоба выкрала 1 цяля.

Як Вы самі разумееце, урон ад здзейсненых крадзяжоў складае дзясяткі і сотні мільёнаў рублёў, якія маглі пайсці на іншыя вытворчыя патрэбы раёна і горада.

Галоўным чынам крадзяжам спрыяюць наступныя фактары: адсутнасць належнага кантрольна-пропускнога рэжыму, дрэнная тэхнічная ўмацаванасць аб'ектаў, пабітыя аконныя праёмы, трухлявая заборная агароджа з лазамі і праломамі, парой адсутнічаюць нават уязныя вароты ці ў крайнім выпадку нацягнуты ланцуг, парушэнні працоўнага заканадаўства (ахоўвае па штатным раскладзе ўсяго адзін ці «1,5» вартаўніка, а павінна быць не меней 3-х чалавек), незачыненая тэхніка, якая стаіць на мехдварах і не належнае выкананне сваіх службовых абавязкаў кіраўніцтвам па штодзённым кантролі за сваімі працаўнікамі, якое спараджае п'янства, сон, адсутнасць на працоўным месцы вартаўнікоў, а таксама дрэнная матэрыяльна-тэхнічная забяспечанасць вартаўнікоў, парою няма элементарнага ліхтарыка, дроў для абагравання ў зімовы час, асабістая недысцыплінаванасць працаўнікоў вартаўнічай аховы.

Асабліва вострa стаіць задача захаванасці сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі прыбранага ўраджаю, ГЗМ, ядахімікатаў і мінеральных угнаенняў, сельскагаспадарчай тэхнікі. Але пры правільнай арганізацыі вартаўнічай службы і штодзённага кантролю з боку кіраўніцтва, а таксама мерах па правядзенні неабходных мерапрыемстваў па выкананні Распараджэння Віцебскага аблвыканкама ад 03.03.2011 года №157 «Пра ўзмацненне мер грамадс-кай бяспекі» па арганізацыі належнага кантрольна-пропускного рэжыму на ахоўваемай ведамаснай аховай аб'ектах» крадзяжу і п'янства сярод вартаўнічага саставу, сон на пасту, адпадуць і кіраўніку не трэба будзе думаць пра прычыны здзейсненага крадзяжу і пісаць заяву ў органы ўнутраных спраў і кожны кіраўнік прадпрыемства, арганізацыі, установы ці прыватны ўласнік, застанецца гаспадаром з вялікай літары гэтага слова і па-гаспадарску беражліва будзе ставіцца да сваёй і дзяржаўнай маёмасці!

*Да ўвагі вадзіцеляў і пешаходаў!*

# Пры паніжэнні тэмпературы паветра запавольваецца рэакцыя пешаходаў

**І.У. Федаровіч,**
*начальнік АДАІ Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі*

**Паважаныя ўдзельнікі дарожнага руху! Даводзім да вашага ведама інфармацыю пра тое, што ў найбліжэйшыя дні чакаецца паніжэнне тэмпературы паветра да (-10,-12 градусаў), і ўзмацненне ветру да 14 метраў у секунду, і выпадзенне ападкаў у выглядзе снегу, што ў сваю чаргу прывядзе да галалёду на праезнай частцы.**

Паводле праведзенага аналізу, пры нестабільных пагодных умовах, павялічваецца рызыка здзяйснення дарожна-транспартных здарэнняў.

Звяртаю ўвагу вадзіцеляў на тое, што пры паніжэнні тэмпературы паветра запавольваецца рэакцыя пешаходаў, у сувязі з чым заклікаю да ўважлівасці пры праездзе пешаходных пераходаў, прыпынкаў грамадскага транспарту, зніжэнню хуткасці руху паблізу дзіцячых дашкольных устаноў і ўстаноў адукацыі асабліва ў цёмны час сутак. Пры руху па аўтадарогах надавайце ўвагу стану дарожнага пакрыцця, асабліва на пад'ездах да мастоў, шляхаправодаў, на адкрытых участках мясцовасці, а таксама дарожным знакам, якія паказваюць на слізкасць участка дарогі, – выконвайце хуткасныя рэжымы, правілы абгону.

У сувязі з выпадзеннем снегападу, просім вадзіцеляў ставіць транспарт на абсталяваныя стаянкі, бо стаянка на праезнай частцы абцяжарвае работу дарожнай тэхнікі па расчыстцы праезнай часткі ад снегу і апрацоўцы яе супрацьгалалёдным матэрыялам. Таксама звяртаем увагу на пастаноўку транспарту ў дварах. У выпадку пастаноўкі на стаянку транспартных сродкаў у месцах, дзе стаячы транспартныя сродак ствараць перашкоду для руху, работы транспартных сродкаў аператыўнага прызначэння і транспартных сродкаў дарожна-эксплуатацыйнай службаў.

**Паважаныя пешаходы!** Заклікаю Вас да ўважлівасці, ажыццяўляйце рух толькі па тратуарах, пры іх адсутнасці па абочыне. Пры адсутнасці ўказаных элементаў дарогі ці немагчымасці руху па іх, дапушчаецца рух пешахода па краі праезнай часткі насустрач руху транспартных сродкаў. У цёмны час сутак пешаход павінен пазначыць сябе святлоадбівальнымі элементамі. Пераходзьце праезную частку па пешаходных пераходах, абавязкова пераканаўшыся ў адсутнасці надыходзячага транспарту, будзьце ўважлівыя пры выхадзе на праезную частку з-за стаячага транспартна сродка.

**Паважаныя веласіпедысты, нагадваем Вам, што рух на роварах ва ўмовах снегападу ці галалёдзіцы забаронены!**

# Асцярожна: піратэхніка!

**А.І. Гігола,**
*начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС.*

**Піратэхнічныя рэчывы: рэчывы ці сумесі рэчываў, прызначаныя для вытворчасці эфекту ў выглядзе цяпла, святла, гуку, газу ці дыму ці іх камбінацыі ў выніку самападтрымальных экзатэрмічных хімічных рэакцый, якія праходзяць без дэтанацыі.**

Аналіз становішча ў вобласці звароту піратэхнічных вырабаў сведчыць пра рэзкае павелічэнне іх патоку ў рэспубліку ў перыяд падрыхтоўкі і правядзення калядных і навагодніх свят.

Выкарыстанне піратэхнічных вырабаў, як правіла, выклікае негатыўную рэакцыю грамадзян, іх абгрунтаваныя звароты ў розныя інстанцыі пра прынясце мер да вінаватых і падтрыманню належнага грамадскага парадку, прыводзяць да траўматызму, у першую чаргу, непаўналетніх.

Штогод знаходзяцца грамадзяне, якія ў абыход закона спрабуюць ажыццявіць распаўсюд на тэрыторыі рэспублікі піратэхнічных вырабаў сумніўнага паходжання.

Ажыццяўляецца незаконны ўвоз, распаўсюд, і як следства выкарыстанне гэтай піратэхнікі нашымі грамадзянамі, і што самае страшнае, дзецьмі.

Трывожыць факт прыцягнення да распаўсюду піратэхнікі непаўналетніх, якіх нелегальныя гандляры небяспечнымі прадметамі выкарыстоўваюць для таго, каб самім сысці ад адказнасці за парушэнне ўсталяваных законам правіл.

З мэтай выяўлення і спынення фактаў незаконнай рэалізацыі піратэхнічных сродкаў, у тым ліку на рынках і ў іншых грамадскіх месцах, а таксама выключэння фактаў іх выкарыстання грамадзянамі органамі ўнутраных спраў ва ўзаемадзеянні з зацікаўленымі, штогод праводзіцца комплекс прафілактычных мерапрыемстваў.

У наш час за незаконную рэалізацыю, выкарыстанне і перавозку піратэхнічных вырабаў КоАП Рэспублікі Беларусь прадугледжана наступная адміністрацыйная адказнасць:

**Артыкул 23.56.** Парушэнне заканадаўства аб пажарнай бяспецы.

1. Парушэнне заканадаўства аб пажарнай бяспецы, у тым ліку абавязковых для выканання патрабаванняў тэхнічных нарматыўных прававых актаў сістэмы супрацьпажарнага нармавання і стандартызацыі, – цягне папярэджанне ці накладанне штрафу ў памеры да трыццаці базавых велічынь, а на юрыдычную асобу – да двухсот базавых велічынь.

2. Парушэнне правіл пажарнай бяспекі асобай, адказнай за іх выкананне, якое пацягнула ўзнікненне пажару, – цягне накладанне штрафу ў памеры ад трыццаці да пяцідзесяці базавых велічынь.

**Артыкул 12.17.** Парушэнне правіл гандлю і аказання паслуг насельніцтву.

ч. 1 Парушэнне правіл гандлю і аказання паслуг насельніцтву, за выключэннем здзяйснення парушэнняў, прадугледжаных часткай 6 дадзенага артыкула, – цягне накладанне штрафу ў памеры ад дзвюх да дзесяці базавых велічынь.

ч.4 Набыццё, захоўванне, выкарыстанне ў вытворчасці, транспартаванне, рэалізацыя тавараў у парушэнне ўсталяванага заканадаўствам парадку (без наяўнасці патрабаваных у прадугледжаных заканадаўствам выпадках суправаджальных дакументаў, дакументаў, якія пацвярджаюць набыццё (паступленне) або водпуск тавараў для рэалізацыі, ці пры наяўнасці не адпаведных рэчаіснасці дакументаў), а таксама рэалізацыя тавараў (выкананне работ, аказанне паслуг) у парушэнне забароны органаў Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь – цягнуць накладанне штрафу на індывідуальнага прадпрымальніка ці юрыдычную асобу ў памеры ад трыццаці да пяцідзесяці базавых велічынь з канфіскацыяй тавараў незалежна ад таго, у чыёй уласнасці яны знаходзяцца, выручкі, атрыманай ад рэалізацыі тавараў, выканання работ, аказання паслуг ці без канфіскацыі.

ч.8. Рэалізацыя тавараў з рук, латкоў, калясак, аўтамабіляў, а таксама з выкарыстаннем іншых прыстасаванняў у месцах, забароненых заканадаўствам, – цягне папярэджанне ці накладанне штрафу ў памеры да трох базавых велічынь.

**Артыкул 23.48.** Парушэнне правіл звароту з агнястрэльнай зброяй, выбуханебяспечнымі, лёгкаўзгаральнымі, едкімі рэчывамі ці піратэхнічнымі вырабамі.

1. Парушэнне правіл уліку, захоўвання, выкарыстання, перавозкі ці перасылання агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў, выбуханебяспечных, лёгкаўзгаральных, едкі пах рэчываў ці піратэхнічных вырабаў – цягне папярэджанне ці накладанне штрафу ў памеры да дзесяці базавых велічынь.

2. Тое ж дзеянне, здзейсненае паўторна на працягу аднаго года пасля накладання адміністрацыйнага спагнання за такое ж парушэнне, – цягне накладанне штрафу ў памеры ад дзесяці да дваццаці базавых велічынь з канфіскацыяй прадмета адміністрацыйнага правапарушэння ці без канфіскацыі або пазбаўленне адмысловага права з канфіскацыяй прадмета адміністрацыйнага правапарушэння ці без канфіскацыі.

*Заканчэнне будзе.*



## МНС інфармуе
**на 11.12.2012 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 1062;
Гібель людзей – 148, з іх 3 дзіцяці;
Урон – 5448.1 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 42;
Гібель людзей – 9, з іх дзяцей няма;
Урон – 298 150 000 руб.

